А. Гарун.

# Жывыя казкі

## для дзіцячага тэатру.

Хлопчык у лесе.
Шчасьлівы чырвонец.
Дзіўны лапаць.







Менск.
1920.
Друкарня Інвалідаў.

# Прадмова.

„Жывымі“ назваў я казкі, надрукаваныя ў гэтай кніжачцы, дзеля таго, што я ня чуў іх ад каго-небудзь і потым запісаў, але ўласнымі вачыма бачыў і вушамі чуў усё тое, што ў іх дзеецца. Спадзяюся, што мае чытачы гэта й самі ўмеюць: бачыць тое, чаго для іншых саўсім няма.

„Жывымі“ назваў я іх яшчэ і дзеля таго, што хацеў, каб з іх была для маіх чытачоў большая карысьць, чым з тых апісаньняў больш ці меньш цікавых здарэньняў, каторыя звычайна называюцца так сама казкамі і па прачытаньні найчасьцей забываюцца. Я хацеў, каб кожная з маіх казак пасьля яе прачытаньня выклікала ахвоту паказаць прачытанае ў асобах—„згуляць“; адным словам, мае дарагія прыяцелі, да вашых гульняў я хацеў дадаць вам яшчэ тры гульні: у „хлопчыка ў лесе“, у „шчасьлівага чырвонца„ і ў „дзіўны лапаць“.

Пры гэтым я саўсім ня буду пакрыўджаны, калі, гуляючы—паказываючы гэтыя казкі, вы штось у іх зьменіце подлуг свайго упадабаньня, што-ні-што дадасьцё, што-ні-што уйміцё. Наадварот, я буду вельмі рады гэткаму папраўляньню, а калі-б, заахвочаныя сваёй працай над гэтым, выдумалі-б нешта саўсім новае, то я віншаваў-бы сябе з тым, што мае казкі добрыя ўдаліся.

Аўтар.



А. Гарун.

# Хлопчык у лесе.

## Казка для дзяцей у трох абразох.

*АСОБЫ:*

*Хлопчык.*
*Яго матка.*
*Рожа.*
*Першы Званочак.*
*Другі Званочак.*
*Трэці Званочак.*
*Чацьверты Званочак.*
*Незапамінайка.*
*Сяляначка.*
*Першая папрадуха.*
*Другая папрадуха.*
*Трэцяя папрадуха.*
*Чацьвертая папрадуха.*
*Ткачыха.*
*Чараунік.*
*Некалькі усялякіх лясных кветак.*



# АБРАЗ ПЕРШЫ.

*На сцэне—падножжа лесу: камлі вялікіх дрэвау, высокія кусты, буйная трава, з якой дзе-ня-дзе выглядаюць кветкі-званочкі.*

## ЗЬЯВА I-я.

*Нейкі час ціха. Пасля чуваць зьліжаючыся паволі дзяціны голас: „мама, мама“! На сцэну выходзіць хлопчык гадоу 8—9, адзеты у зрэбніну, паверх якой—латаная сьвітачка. Хлопчык у лапцех, бяз шапкі, Валасы падстрыжаны роунінька і гладка учасаны. Усе на ім беднае, але чыстае.*

ХЛОПЧЫК. (*Кліча*). Мама!.. Мама! (*шукае паміж кустоу*) Мама!.. Мама!.. (*падыходзячы на перад сцэны, як-бы сам да сябе*). Дзе-ж мама? Хаджу, хаджу, шукаю і.. нігдзе няма мамы... (*аглядаецца, ня сходзячы з мейсца, кругом; як-бы да публікі*): Мама некуды пайшла...

Сам ня ведаю дзе я...
Страшна ў лесе: скрозь імгла... (*у глыб лесу*):
Мама!.. Мамачка мая! (*зноу абходзячы кусты*).
Мама!.. Мама!.. Мама!.. (*як раней*).
Ну, куды цяпер ісьці?—
Скрозь тут дрэвы, сьлізкі мох...
Ах,—мне сьцежкі не знайсьці
Ў гэтых нетрах, пустырох... (*зноу у глыб лесу*)
Мама!.. Мама!.. (*пауза*) Тут зьвяры...
Могуць ноччу разарваць...
Ой, так рана, без пары,
Не хачу я паміраць. (*У глыб ласу, злажыушы, як для малітвы рукі*): Мама!.. Мама!.. (*Пауза*).
(*Адступаючы у глыб сцэны, з плачам*):
Ой згубіла,
Ой наўмысьля з воч спусьціла,
Каб астаўся ў лесе я.. (*падае у траву закрыушы рукамі твар: з плачам*):
Мама!.. Родная мая!.. (*Пауза. Хлопчык плача, паволі уціхае, нарэшці, відаць, заснуу*).

## ЗЬЯВА II-я.

*(Хлопчык сьпіць. З-за аднае кветкі-званочка выглядае галоука дзяучынкі з блакітнымі вочкамі, у жоута-чырвонай шапачцы на сьветлых ільняных валасох,—душа кветкі-званочка. За ей такім спосабам паказуецца другая, трэцяя, чацьвертая. З-за аднаго з кустоу выглядае Незапамінайка, у блакітным вяночку і бела-зяленай сукенацчы).*

ПЕРШЫ ЗВАНОЧ. (*Аддзяляючыся ад куста, падбягае да хлопчыка, схіляецца над ім і цікава прыглядаецца, дакранаючыся нават да валасоу*).
Хлопчык... Людзкае дзіця...

ДРУГІ ЗВАНОЧ. (*зьяуляецца, як і першы*): Як ён папаў сюды у лес?

ТРЭЦІ ЗВАНОЧ. (*як першыя*): Маленькі яшчэ ён саўсім...

ЧАЦЬВЕРТЫ ЗВ. (*як першыя*): Бедненькі! Дзе яго дом?

НЕЗАПАМІНАЙКА. Моцна змогся ён, сьпіць... (*пауза, у часе якой з лесу зьбіраецца усе болей кветак*).

ПЕРШЫ ЗВАН. Што-ж, сястрычкі, з ім рабіць?

ДРУГІ ЗВАН. Мусіць трэба разбудзіць;
Сьцежку з лесу паказаць...

НЕЗАПАМІН. —Не, ня трэба абуджаць!
Хай пасьпіць ён, адпачне,
Страху збудзецца у сьне...

ТРЭЦІ ЗВАНОЧ. Хай пасьпіць, а тэй парой
Трэба зьбегаць за сястрой
Нашай старшай, хай яна
Ўзбудзіць хлопца ада сна.

АДНА З КВЕТАК. Так найлепей нам зрабіць!

ПЕРШЫ ЗВАН. Хто-ж пакліча з вас сястру?

НЕЗАПАМІН. Дзе яна?

ДРУГІ ЗВАН. А мусіць быць
Ў тым баку, ў старым бару.

КВЕТКІ. (*адна па аднэй*): Пойдзем? Пойдзем!—Пабяжым!

ТРЭЦІ ЗВАН. Я другіх пайду склікаць... (*разьбягаюцца адна па аднэй*).

НЕЗАПАМІН. Я пабуду тут пры ім.

ПЕРШЫ ЗВАН. Я так сама. (*Схіляецца над хлопчыкам*).

## ЗЬВЯЯ III-я.

*(Некаторыя з кветак разьбягаюцца па лесе, а некаторыя, між імі і Незапанайка, Першы званочак застаюцца пры хлопчыку. Пауза).*

ПЕРШЫ ЗВАН. Гэтак спаць.
Моцна можа толькі той,
Хто ад матачкі адбіўся

І сярод травы густой,
Як мурашачка, зблудзіўся. (*гладзіць яго па галаве у часе гэтага іншыя кветкі абступаюць хлопчыка і маўчліва глядзяць на яго.*

НЕЗАПАМІН. Ведаеце, сястрыцы, што я надумала?—
Госьць гэта рэдкі у нашым лесе
Трэба яго і як-сьлед прывітаць:
Трэба казак яму і нашых песьняў
Наказаць, насьпяваць, нашаптаць.
Беднага роду мусіць гэта дзіцятачка,
Вырасьце і ня будзе знаць радасьці,—
Хай-жа яму тыя песьні ўспамінаюцца,
Што пачуе тут, у нашай зарасьлі.

УСЕ КВЕТКІ. (*адна па аднэй*): Праўда! Добра! Пасьпяваем!
Трэба ў кола ўсім пастаць. (*становяцца у кола*)

ПЕРШЫ ЗВАН. Ну, сястрычкі, пачынаем,
Разам, разам запяваць (*Становяцца усе у кола і рытмічнымі рухамі то у адзін, то у другі бок рыхтуюцца да сьпеву*).

УСЕ. (*Сьпяваюць ходзячы карагодам*):

*Павольна.*













Яснае сонейка, сьветлыя зорачкі,
Цёплыя дожджычкі,—ласкі зямлі,—
Усё для вас лецейкі,—годы дзяціныя,
Толькі-б вы радасьцю яснай цьвілі.
Толькі малое, нявінная, чыстае,
Сьвету прыўкрасай праўдзіва слыве,
Толькі для дзетачак, пекніенькіх кветачак,
Ўсё на зямельцы красуе-жыве.

*Жывей.*



Слон - ца пра-мень-ні з ня-бёс па - сы - ла - е,
З мі - лай усь-меш-кай ма-лых за-баў - ля - е.



Ра - ніч - кай ці - ха ля вуш-ка ка - зы - ча,—
Бу-дзіць: ўста-вай, і на ву - лачку клі - ча.

Месячык, зоркі—пасьцель пасьцілаюць,
Срэбнай тканінай ад сьцюжы ўтуляюць,
Ветрык цяплюсенькі ціханька дзьмецць;
„Люлі, дзіцятачка, люлі“, пяець.

*Жыва.*



І мы ўлет-ку, квет-кі - дзет-кі, зась-пя-ва-ем, як і ён:



Сьпі наш гось-цік, я-га-мось-цік, сьпі, ла-ві спа-кой-ны сон!

Пройдуць годы—скараходы,
Дні дзяцінства прамінуць
Сьцюжы, бўры і віхуры
Не дадуць тады заснуць.

*(З лесу чуюцца вяселыя крыкі, кветкі перастаюць сьпяваць, слухаюць, паволі кола разьнімаецца).*

НЕЗАПАМІНАЙКА. Ідуць! Нашы йдуць.
УСЕ. *(адна па аднэй, спатыкаючы):* Ідуць! Нашы! Йдуць!

## ЗЬЯВА IV-я.

*(З лесу выходзіць Рожа, першая сярод кветак, вясёлая, рухавейшая і крышачку вышэйшая ад усіх).*

РОЖА. Кажуць мне, мае сястрыцы,
Бытцам дзіва вы знайшлі.
Малы хлопчык? *(прыглядаецца да хлопчыка)*
А ня самі
Яго ў лес вы завялі?

ПЕРШЫ ЗВАН. Не, сястрыца, ён быў з маткай,
Ды згубіўся неяк, сам;
—Матку ўсё шукаў, бедацтва...
І прыблукаўся аж к нам.

РОЖА. Што-ж вы тут бяз нас рабілі?
Чым прынялі ты гасьця?

НЕЗАПАМІН. Карагод яму вадзілі
І сьпявалі...

РОЖА. А дзіця?

ПЕРШЫ ЗВАН. Спаў, нябога, час увесь.

ДРУГІ ЗВАН. Не хацелі мы будзіць,

НЕЗАПАМІН. Прыкажы ты нам сама. Што з ім бедненькім рабіць.

РОЖА. Што па вашаму?

ПЕРШЫ ЗВАН. Яго абдараваць мымусім шчасьцем.

ДРУГІ ЗВАН. І грошы даць яму, каб знаў
І помніў дзікі лес і кветкі.

НЕЗАПАМІН. І пекны сон, каб ўспамінаў яго
Усё жыцьцё ён—
І, нават, і тады, калі яму
Благія сны пачнуць збывацца
Усё часьцей...

РОЖА. Ну значыць, вы сказалі ўсё,
Што думала і я;
Іначай я сама-бы не зрабіла.
Дык слухайце: вось тут, на гэтым мейсцу,
Дзе мы стаім,
Вялікі скарб закопаны; яго
Дзіцяці аддамо, каб меў з чым жыць.
А каб умеў шчасьлівым быць,
Дык сон яму пакажам, казку.
Няхай усё жыцьцё ён лес прыпамінае
І дзякуе за сон.
Дык зараз... (*глядзіць навакол: кветкі зразумеўшы знак, разыходзяцца у шырокае кола. Рожа нахіляе рукой галінку ад куста і ей дакранаецца да хлопчыка*):
Няхай пачнецца казка!

*(Пры апошніх словах ратам яркае сьветла кладзецца шырокім праменем на Рожу і ляжачага хлопчыка. Хлопчык зварухнуўся, падымае галаву і працірае вочы).*

**Заслона.**

# АБРАЗ ДРУГІ.

*Сцэна—альтана з дрэвау, галіны каторых, пасплятаушыся, твораць як-бы цыркульны строп. Пасярэдзіне—увойсьце, завешанае павучыньнем, на якім—залаты павук. Відаць, што альтана апіраецца на чосаных з жоутага дрэва арках, каторых слупы і цыркулі амаль не саусім хаваюцца у гальлі і лісьцях. Дрэвы—дзіуныя, хваіны і лісьвяныя, але з яскравымі кветкамі. У глыбі альтаны, у левым кутку, на трох прыступачках—як-бы трон, высокі услон. Каля тыльнай і правай сьцен—услоны, каторыя, як і трон,—з нейкага бліскучага крышталю. Наперадзі з правага боку—сера̀браныя кросны з залатою асновай. У адным мейсцу левай сьцяны—заросшы уючыміся рожамі (незвычайна вялікімі) чатырохкутнік,—як-бы запон над нейкімі дзьвярыма. Праз увесь абраз шчабечуць-заліваюцца птушкі.*

## З Ь Я В А І-я.

*(Сялянaчка прылягла на троне. Чатыры папрадухі—-дзьве ля тыльнай і дзьве ля правай сьцен—сядзяць на услонах і прадуць. Ткачыха сядзіць ля красен, аб нечым замысьліушыся).*

СЯЛЯНАЧКА. Што вы, дзевухны мае,
Прыуціхлі, прыунылі?
Ні адна ні запяе;—
Хоць-бы гаварылі
Аб чым небудзь... Ўсё маўчаць,
Як ім слоў ня стала.
Ах, каб я магла сьпяваць,—
Я-б вам засьпявала!

АДНА З ПАПРАДУХ. Ой, паненачка, ня грашыце людзям.
Гэта-ж голас маеце чысты, салаўіны,
І, як мы часамі промеж сябе судзім,
Дык сьпяваць вы голасна й хороша павінны.

СЯЛЯНАЧКА. Ах ня тое, ах ня тое!
Хіба-ж можна пець ў няволі,
Калі туга сэрца кроіць?..

ДРУГАЯ ПАПР. Эй, паненка, у гэткай холі
Грэх тужыць, ды сумаваці,
Ды красу сваю губіць...

СЯЛЯНАЧКА. *(горача).* Не хачу я гэтак жыць!
Я расла ў мужыцкай хаце...
Тата... *(плача)* Мілыя браточкі...
Мама-любка... гадавала...

ТКАЧЫХА. *(Падыходзячы пацяшае).* Пашкадуй паненка вочкі...

СЯЛЯНАЧКА. *(З гневам)* Нашто буду шкадавала?
—Каб мне імі здрайцу бачыць,
Што забраў мяне праз сілу?

ТКАЧЫХА. *(Ласкава.).* Дык ня можна-ж гэтак плакаць..,

СЯЛЯНАЧКА. *(Устаючы, да ткачыхі.)* Ах, мне гэты сьвет пастылы!
*(Абнімае ткачыху.)* Засьпявай ты любанька, засьпявай ты міла
Тую песьню сумную, што я навучыла!
—Можа гора ўкоіцца, пераціхне, згіне.
Ты, як я, няшчасная,—паслужы дзяўчыне.

ТКАЧЫХА. Зараз, зараз, панначка мая ты гаротная,
Абы-б твае думкі мінулі маркотныя.

*(Пауза. Ткачыха спявае):*

*Умеркавана.*







У роднаго татачкі
Ў прывольлі жыла,
У роднай матуленькі
Пястушкай расла.

А браты, саколікі.
Мяне. сьцераглі,
Ласкавы, прыветлівы
Са мною былі.

Надумалась коршуну
Мяне пагубіць,—
Надумаўся горлічку
Ў няволю ўсадзіць...

*(Ткачыха сьпявае адразу чатыры радкі, а потым усе паутараюць за ей апошніх два радкі).*

## ЗЬЯВА II-я.

*(Пад канец песьні, каторая наводзіць на дзяучат задуму, у дзьверах зьяуляецца* Х л о п ч ы к. *З вялікім зацікауленьнем глядзіць на дзяучат і усе.* С е л я н а ч к а, *убачыушы раптам яго, ад здзіуленьня ня можа нічога выгаварыць, хаця як-бы намыкаецца нешта сказаць. Потым зрываецца з мейсца і радасна перабівае сьпявачак):*

СЯЛЯНАЧКА. Дзяўчаткі! Дзяўчаткі! Госьць!

ПАПРАДУХІ І ТКАЧЫХА. *(Убачыушы Хлопчыка, здзівована, разам):* А-а! Ай! Хлопчык!.. Просты... Хлопчык...

СЕЛЯНАЧКА. *(Падбягае да Хлопчыка і за руку уводзе яго у альтану)* Хадзі, хадзі наш госьцік любы!
Хадзі, ня бойся нас, дзяўчат!

ХЛОПЧЫК. А мама дзе?

ТКАЧЫХА. *(Разам зразумеушы пытаньне.)* Шукае згубу...

СЯЛЯНАЧКА. Чыя? Твая?

ХЛОПЧЫК. Але!..

СЯЛЯНАЧКА. Наўрад
Яна сюды зайсьці-б магла.
Не, не, дзіця, твая матуля
У нас ніколі ня была!
—Але нічога! Лепш скажы нам
Якім здарэньнем ты забрыў
Куды ня ходзіць і зьвярына?

ХЛОПЧЫК. Я-ж хіба вам не гаварыў,
Як мы сягоньня зрана, мамачка і я,
Ў лес пайшлі, абое, назьбіраць лам'я,
Бо мы небагата, мы бедна жывём,
Хаця сваё жыцьце нягоршым завём.
Сушняк зараз мама пачала зьбіраць,
А я схацеў кветак для мамы нарваць.
Рвучы тыя кветкі ад мамы адбіўся,
Хадзіў, хадзіў лесам, пакуль заблудзіўся.

ТКАЧЫХА. Ай, вось няшчасьце!

АДНА З ПАПР. Аяй, аяй, бедны!

ДРУГАЯ ПАПР. Якая-ж то матка, што спусьціла з вока
І дала дзіцяці зайсьці так далёка!

ТРЭЦЯЯ ПАПР. Трэба-ж гэтак: ў лесе дзіцятка пакінуць!
Маглі зьвяры зьесьці і так мог загінуць!

СЯЛАНАЧКА. Ціха, сястрыцы! У добры ён час
Трапіў здарэньнем к нам ў госьці:
Знойдзе дарогу ён, выведзе й нас,
Вызваліць бедных...

(*Здзіулена.*) А вох-ці!

АДНА З ПАПР. Як ён зробіць гэты цуд?
Як-жа станецца яно? (*хлопч. слухае зьдзіві ушыся*).

СЯЛЯНАЧКА. Той, хто нас сюды (*паказуе рукамі навакол*) садзіў,
Мне усё адкрыў даўно... (*да Хлопчыка*)
Слухай хлопча: нас адзін
Чараўнік дзяржыць ў няволі.
Ён заморскай ведзьмы сын,
Злы вядзьмар, і мы ніколі
З-пад яго замкоў ўцячы
Не здалелі-б, каб ня ты.
Але дзержыш ты ключы,
Тый, што любіш так цьвяты (*падводзіць Хлопчыка да ружанай заслоны паказуючы рукой на заслону*):
Бачыш: рожы!—Гэта дзьверы—
Сам вядзьмар іх змайстраваў,
А за гэтымі дзьвярыма
Ён жалейку захаваў.
Як зайграць на тэй жалейцы,—
Уцячэць адсюль вядзьмар
За тры моры-акіяны
І ня стане болей чар.
Але мы зачараваны,
Нам дзьвярэй не адчыніць,
Толькі ты, неспадзяваны,
Можаш гэта учыніць,
І сябе, і нас уволіць...

ХЛОПЧЫК. (*Жвава, з блескам у вачох*) Праўда? Як-жа?

СЯЛЯНАЧКА. Сашчыкні
Адну рожу ты рукой
І убачыш, як заслона
Распадзецца прад табой.

ТКАЧЫХА. (*Сумляваючыся, махае рукой*): Не адна з нас рожы рвала,
Дый нічога ня відаць!

СЯЛЯНАЧКА. Бо пад чары ты папала, (*паказваючы на Хлопчыка*)
А ён здолае іх зьняць!

ХЛОПЧЫК. Я спрабую (*падходзіць да заслоны і мяркуецца сарваць рожу. Папрадухі, Ткачыха і Сяляначка глядзяць на яго з страхам і надзеяй. Хлопчык, адрываючы руку*).

Ой, пячэцца,
Маўляў жыжка-крапіва...

СЯЛЯНАЧКА. Рві, нічога!

ХЛОПЧЫК. Кепска рвецца...

СЯЛЯНАЧКА. Асьмяляйся? Рві... Раз...

ХЛОПЧЫК. Два! (*моцна, адразу тузае адну рожу і зрывае яе. Заслона падае і у глыбі тайніка відаць абітую зяленым сап'янам шкатулу. Хлопчык хапае у рукі шкатулу і выймае з яе просьценкую жалейку. З трыумфам*): Вось яна!

ТКАЧ. І ПАПР. Дудка! Дудка!

СЯЛЯНАЧКА. Я казала! (*Чуецца гук трубы. Усе, апрача Сялянaчкі палохаюцца*).

ПАПР. І ТКАЧ. Ён! Ён! Пакарае ўсіх яшчэ!

СЕЛЯНАЧКА. Не, цяпер нам страху мала,
Сам ад нас ён уцячэ. (*Раптам надумаушыся*).
Трэба ўлаць, як ні бывала
Тут нічога і ня ў чым,
Каб яго душа ня знала,
Што зрабіць мы хочам з ім. (*Да ткачыхі і Папрадухі*):
—Вы на мейсцы сядзьце чынам
І пачніце ўсе сьпяваць. (*да Хлопчыка*)
А ты, хлопча, як я скіну
Рукой,—зараз пачні йграць... (*Усе разыходзяцца і сядаюць, як спачатку. Сялянaчка хавае Хлопчыка за сваім крэслам і сама сядае, як у пачатку сцэны.*

УСЕ. (*сьпяваюць*):

*Весяла.*



Ой у-жо ня ра - на, а ня від-на па - на,
А ня від-на ймось - ця, за - ба - віў - ся штось - ці.

## ЗЬЯВА III-я.

*На парозе зьяўляецца гаспадар-чараўнік у высокай футранай шапцы, з доўгай да кален сівой барадой, у чырвоным кантушу і зялёных сап'янавых ботах. На сустрэч яму кідаецца Сялянaчка і за абедзьве рукі вядзе яго на сваё мейсца. Абнімае і цалуе яго, саджае на ўслон, але ўсё робячы так, каб ён ня відзеў зьмены, якая зрабілася з заслонай. Зьнімае з яго шапку, потым угаварые зьняць боты і раптам, адставіўшы іх далей,*

*засьмяяўшыся, адскакue ў бок і дае рукой знак Хлопчыку. Праз увесь гэты час дзяўчаты пяюць, а як толькі пачынае граць дудачка—сьціхаюць.*

*Сьпеў:*



А на - ша - я па - ня хо - ра-ша уб - ра - на,
Ў вок-ны па - зі - ра - е, па - на вы-гля - да - е.

Птаха прыляцела
З мора-акіяна,
Села на варацех:
—Прынімайце пана!

Прыехаў, прыехаў,
Прывёз нам гарэхаў;
Для яснай малжонкі
Прывёз два пярсьцёнкі... (*Пачынае граць дудачка, песьня перарываецца, птушкі перастаюць сьпяваць. Чараўніка як-бы нешта падкідае з мейсца: ён дзіка азіраецца наўкол і, ўбачыўшы тайнік разкрытым, бязсільна падае на мейсца,—ад страху,—але зараз-жа падскакуе зноў і, ня могучы нічога сказаць, ўецца на мейсцы, як ўюн і крывіць усялякія грымасы такім спосабам паволі спускаецца з прыступак на памост, хапаючыея то за бакі, то за галаву, то за грудзі, то за бараду. Хлопчык выходзіць пры гэтым наперад і грае, ідучы за чараўніком, каторы, як пабітая сабака, пасуваецца да дзьвярэй. У вачах Чараўніка—часам страшны, бязсільны гнеў, часам шкода, часамі—страх. Падыйшоўшы да дзьвярэй, ён, як маланка, кідаецца вон. За ім у лесе чуецца трэск ламаючыхся дрэваў, гром, моцны сьвіст).*

## ЗЬЯВА IV-я.

(ТЫЯ-Ж, БЕЗ ЧАРАЎНІКА). *У альтане робіцца шмат сьвятлей; відаць, як соўнечныя праменьні, прабіваючыся праз лісьця, граюць сьветлымі плямкамі на сьценах, тварах, падлозе; рожаная заслона сама падымаецца і закрывае тайнік. На тварах усіх, апроч Сяляначкі і Хлопчыка, відаць вялізную радасьць, зьмяшаную з такім-жа здзіўленьнем. Толькі Хлопчык ня страціўся: ён з цікавасьцю разглядае просьценькую жалейку. Сяляначка глядзіць у гару, як-бы дзякуючы некаму. Гэта сцэна, як можна нядоўгая).*

ТКАЧЫХА і ПАПРАДУХІ (*падаючы на калені і, злажыўшы, як-бы молячыся, рукі, у адзін голас*):
Дзякуй табе, долячка, за гэтакі цуд,
Што мы не асталіся, ня згінулі тут...

СЯЛЯНАЧКА. (*з нецярплівасьцю*). Цурныя, вас ня доля збавіла,
А хлопчык гэты. Гэта ён
Не шкадаваў сваіх маленькіх рук,
Для нашага дабра,—дык дзякуйце
Яму.

ТКАЧЫХА і ПАПРАДУХІ *(саскочыўшы з каленяў, з крыкамі: „а гэта праўда! праўда! ён збавіў!“, кідаюцца на свае мейсцы і зараз-жа варочаюцца бягом да Хлопчыка, нясучы у руках падарункі).*

ПЕРШАЯ ПАПР. Вось клубок вазьмі ты ніцей залатых, я іх сама напрала. Ў якія-б нетры ты ня трапіў,—ня бойся з ім. Кінь толькі,—ён пакоціцца і вывядзе дамоў. Яго сама я прала, але ўцякаць баялася, бо чараўнік ўсё роўна-бы дагнаў. (*аддае залаты клубок Хлопчыку*)

ДРУГ ПАПР. А гэта—пасак мой. Надзень яго
І сілы у цябе аддасца у трая. (*аддае пасак*)

ТРЭЦЯЯ ПАПР. А ад мяне кудзельку вазьмі прадзіўную,
З якой яна расьліны—я ня ведаю,
Але, як дзьмухнеш на яе, дык зараз самалёт
Перад табой разсьцелецца, кілім.

ЧАЦЬВЕР. ПАПР. Вязьмі зярняты гэтыя. Пасееш і уродзіцца
З іх залаты табе лянок.

ТКАЧЫХА. А я хачу табе аддзякаваць апраткай гэтаю,—
Зімой у ёй ня холадна, а ў летку не пячэць.

СЯЛЯНАЧКА. А я табе, збавіцель наш, вось што прыгатавала:
Ня мела чым дарыць, дык ад яго забрала.—
Вось гэта боты-скараходы і шапка-цемязень,
Яны хоць для якой прыгоды у жыцьці
Ня шкодзяць. (*падае*) На, надзень.

ХЛОПЧЫК. Не-не, ня буду надзяваць я,—
Бо ў іх ад вас я уцяку...
Але скажэця мне: багацьця
Нашто мне столькі, мужыку?
Што з ім рабіціму?..

СЯЛЯНАЧКА. Для братняй
Яго карысьці ужывай
І, як сягоньня нам, хлапчына,
Ўсім шчыра ў горы памагай. (*Да усіх, весяла*)
Ну, а цяпер ідзём адгэтуль!—
Хай будзе птушкам гэты дом,
Ў якім ня бачылі мы сьвету.
Ідзём!

ХЛОПЧЫК. (*радасна*) Ідзём!

ПАПРАДУХІ. (*так сама*). Ідзём!

ТКАЧЫХА. (*так сама*) Ідзём! (*Усе выруша юць з альтаны*).

З а с л о н а.

*Канец другога абраза.*

# АБРАЗ ТРЭЦІ.

*На сцэне ўсё, як у канцы першага абраза. Тыя самыя асобы, ў тых самых пастацях, тыя-ж дрэвы, травы, кветкі,—усё, як у канцы першага абраза.*

## ЗЬЯВА І-я.

РОЖА. *(Адпушчае галінку, каторая зноу выпрастоуваецца).*
Скончылася казка... Час пачацца жыцьцю!
*(пры гэтых словах прамень, асьвятляушы Рожу і Хлопчыка зьнікае, кветкі зьбіраюцца зноу у кола каля іх).*
Зараз ён устане і памкне дамоў.
Ды і вы сястрычкі зараз пабяжыце,
Бо і слонца хутка скоціцца далоў.
Ці вы ўсе у зборы?

ПЕРШЫ ЗВАН. Не, аднэй нямаш.
Незапамінайка з вёскі ня прыйшла.

РОЖА. Куды-ж яна зьбегла?

ТРЭЦІ ЗВАНОЧ. А у вёску тую, адкуль хлопчык наш,
Мы яе прасілі, каб матку прывяла.

РОЖА. А?.. Вось гэта добра. Так яно і трэба,
Незапамінайка пэўна справіцца з усім.
Ну, пачырванела на захадзе неба,
Досыць нам тут дляцца. (*Пытаецца у першага, другога, трэцяга і чацьвертага званкоу*):
А вы тут-пры ім?

ЧАЦЬВ. і ІНШ. ЗВ. Мы адгэтуль самі..

РОЖА. Ах, я прызабыла!
Трэба скарб адзначыць, той, што тут ляжыць.
Чым яго адзначыць, каб прыметна была?
А!.. Знайшла, знайшла я!—Грыб тут пасадзіць!
*(Перасаджывае з другога мейсца на тое, каля якога сьпіць Хлопчык, вялікі грыб. Да тых, што застаюцца)*:
А вы засьпявайце яму калысанку,
Хай, пакуль да маткі, саладзей пасьпіць!
Ну, (*да усіх*)—пара, сястрыцы! *(да тых, што астаюцца)*—да другога ранку! (*зьбіраецца йсьці з іншымі кветкамі*).

ЗВАНОЧКІ. (*Каторыя астаюцца*). І табе, красуня, сон вясёлы сьніць! (*Рожа і інш. кветкі адыходзяць. 1, 2, 3 і 4 званочкі станавяцца на свае мейсцы, за кустамі*).

### ЗЬЯВА II-я.

*Хлопчык сьпіць, як раней. Званочкі толькі адымі галоўкамі выглядаюць з-за кустоў. Ціхі-ціхі пачынаецца сьпеў калысанкі і паволі мацнее, але не да поўнага голасу. Падчас сьпеву змрок гусьцее і пад канец абраз асьвячаецца месяцам.*

НЕЗАПАМІНАЙКА. *(Ціханька, на пальчыках, выбягае на сцэну, на хвіліначку схіляецца над Хлопчыкам і так сама бяжыць на свае мейсца. Сьпеў у часе гэтага не перарываецца):*

СЬПЕЎ.

*Умеркавана. Спакойна.*



Ве-чар цё-мны на-ста-е, слон-ка ўсёй зям-лі пя-е:



Я і-ду ад-па-чы-ваць, лю-лі, лю-лі, дзет-кі, спаць.

Бор заснуў і ціха сьпіць,
Месяц лісьця серабрыць.
Ветрык-жэўжык шмыгануў,
Роску з лісьцяў страсануў.
Трэба спаці, ветрык-сьвет,
Бор бурчыць яму у сьлед.
Люлі, люлі,—на палёх
Над ракой туман залёг... (*Некалькі разоў у часе песьні ў лесе чуецца далёкі кліч:—* „сынку“, „сынку“! *Перад апошнімі слоўмі песьні ён чуецца саўсім блізка,—туж, у кустох. Кветкі як-бы ўздрогваюць і перарываюць сьпеў. З-за кустоў выходзіць Матка*).

### ЗЬЯВА II-я.

МАТКА. (*Шукаючы промеж кустоў, слабым голасам*):
Сынку! Сынку! Сынку! (*Выходзячы наперад*):
Мілае маё, каханае дзіцятка,
Дарагі ты мой званочак залаты,
Заблудзіўся, бедненькі, ў лесе, як ягнятка,
Адгукніся, маё роднае, дзе ты?...
Сыначку! Сыночак! (*Заўважыўшы Хлопчыка*):
А хто-ж гэтта, скорчыўшыся, пад кустамі сьпіць? (*Прыглядаецца, а пасьля, пазнаўшы, кажа*): Сыначку! Дзіцятка! Рыбка мой! Каточак! Сыначку! (*Будзіць. Хлоп-*

*чык абуджаецца; соладка пацягуецца пасьля сну і, увідзеўшы матку, успамінае дзе ен і кідаецца ей на шыю).*

ХЛОПЧЫК. Мамачка! (*Цалуе матку*).
МАТКА. (*Цалуючы Хлопчыка*) Сыночак! Месячык!
ХЛОПЧЫК. Як мяне знайшла ты?
МАТКА. А ты, як тут спаў?
ХЛОПЧЫК. Ох! Ня мог я сьцежкі адшукаць да хаты,
І ужо ня помню, як сюды папаў. (*Раптам*)
Ах, які я відзеў сон!
Каб ты, мама, знала!
Мне й цяпер здаецца ён...
МАТКА. А я? Як шукала
Цябе, сынку... Каб ты знаў,
Як душа балела...
Страх мяне такі абняў,
Што ледзьве ня млела.
Голас твой ў маіх вушах
Ўсе зьвінеў, як струнка:
Мама, мама, памажы!
Мама! Дай ратунку!
ХЛОПЧЫК. Мамачка бедная! Столькі трывогі
Ты праз дурнога мяне прыняла! (*Пацяшае матку*).
МАТКА. Не, мае дзеткі, ня будзь к сабе строгі;
Я наумысьля цябе завяла
Ў гэтыя нетры...
ХЛОПЧЫК. (*Ня верачы, з абураньнем*). Ня праўда?
МАТКА. (*Прыцягуючы яго да сябе, з плачам*): Ой, каб гэтак!
Каб няпраўдаю было!—
Мяне-б скруха так ня брала,
Так-бы сэрца не пякло!
Але праўда!.. Мусіць знаеш,
Як прыходзіцца нам жыць:
Ані хлеба, ні да хлеба
І німа, дзе зарабіць!.. (*Плача*).
ХЛОПЧЫК. Ня плач, мамачка-галубка,
Праміне усё, як цень.
Голад, холад нас з табою
Не разлучаць ні на дзень.
МАТКА. Веру, веру, маё шчасьце,
Залаценькі хлопчык мой,
Што ні холад, ані голад,

Не разьдзеляць нас з табой!
А цяпер, маё каханьне,
Час ужо ісьці дамоў.
Ото-ж радасьці там будзе,
Што ты вернешся здароў!

ХЛОПЧЫК. Пойдзем, пойдзем! (*Убачыўшы грыб*):
Ай, што гэта?
Грыб вялізны які ўрос!

МАТКА. Грыб? (*Нахіляецца над грыбам*). Мусіць ўсё лета быў тут.
Бачыш, мохам як зарос. (*Да Хлопчыка*).
І які з сябе вялізны!
Рві, дый пойдзем,—пуць ня бліжні,
А нам вёрст са тры адмераць!..

ХЛОПЧЫК. (*Радасна*). Вось і будзе з чым вячэраць! (*Зрывае грыб, за якім паднімаецца дзеран і з-пад яго відаць аббітая срэбнай бляхай шкатула, з медзянымі абручамі. Хлопчык у радасьці цягне матку за руку*).
Мама, мама, падзівіся,
Тут куфэрак нейкі з бляхі,
Рэчы нейкія знайшліся! (*Вынімае шкатулку і паказуе матцы*).

МАТКА. (*Зьдзівована*) Ах!
І напраўду, нехта тут
Нешта нейкае схаваў!
Дай адчынім, ці ня скарб
Пад табою тут ляжаў? (*Абое нахіляюцца і, адчыніўшы шкатулу, выймаюць з яе рэчы*).
(*Выймаючы жалейку*): Жалейка...

ХЛОПЧЫК. (*Хапае, з радасьцю*): Жалейка!—Тая!

МАТКА. (*Выймае*). Боты... (*Ставіць на зямлю*).

ХЛОПЧЫК. (*Паднімае боты і, пазнаўшы, кажа*):-Скараходы!

МАТКА. (*Выймае*). Шапка... (*Кладзе на зямлю*).

ХЛОПЧЫК. (*Паднімае з радасным крыкам*): Цемязень!

МАТКА. (*Выймае*). І вопратка багатая...

ХЛОПЧЫК. (*Ня устрымлюючы радасьці.*) Мама, любка,-гэта-ж сон,
Сон мой дзіўны! Каб ты знала,
Што я тут надойчы сьніў!
Тут навокал ўсё сьпявала,
Чараўнік тут страшны быў...
Яго я прагнау ігрой
Вось на гэтай, во, жалейцы.

МАТКА. (*Спыняючы*): Перад ноччу, хлопчык мой,
Так ня трэба гаварыць.
Яшчэ ў лесе, можа быць,
Праз такія словы зблудзім...

ХЛОПЧЫК. Не, блудзіць ужо ня будзем. (*паказуючы залаты клубок*):
Во ў клубку у гэтым сіла:
Ён дарогу дзе-б ня была
Сам пакажа, толькі кінуць... (*кідае клубок*).

МАТКА. (*Хапаючы яго за руку, каб стрымаць*):
Што ты робіш, ніці згінуць...

ХЛОПЧЫК. (*Паказуючы другой рукой*): А глядзі, глядзі-ж!

МАТКА. (*Зьдзівована*) . . . . . . І праўда!
Клубок коціцца прасьцютка...
Дык ня трацьма-ж ні мінуткі,
Пойдзем зараз!.. (*Зьбірае рэчы, каб ісьці*).

ХЛОПЧЫК. (*Скідае лапці і адзяе боты*): Вось, я толькі скараходы
Замест лапцікаў адзену...

МАТКА. Што ты, дзетачкі, надумаў
Тут у лесе рабіць зьмену?

ХЛОПЧЫК. Я хачу папрабаваць,
Як у іх хадзіці трэба
І як імі кіраваць... (*Устаўшы, да маткі*)
Ну, цяпер ідзем дамоўку!
Куфар мамачка бяры.

МАТКА. (*Хоча адзець яму шапку*). Надзень шапку на галоўку!

ХЛОПЧЫК. (*рукой не дае адзець*): Не, ня трэба без пары!
Пойдзем!... (*Бярэць матку за руку і хоча йсьці разам, але зараз-жа апераджае яе і хаваецца у лесе*).

## ЗЬЯВА IV-я.

(*Матка адна*).

МАТКА. (*Крычыць хлопчыку у сьлед*). Сынку!.. Сынку!.. (*ламаючы рукі*):
Божа мой! Ізноў згубіла!.. (*Крычыць у лесе*): Сынку!.. Сынку!.. (*У роспачы ламае пальцы і аглядаецца навакол. Чуецца голас хлопчыка з лесу*):

ХЛОПЧЫК. Я тут, мама! (*І зараз-жа ен выбягае сам вялізнымі крокамі і, стаўшы з імпату, аж сеў у траву*).

## ЗЬЯВА V-я.

(*Матка і Хлопчык*).

МАТКА. (*З дакорам да Хлопчыка*): Ці-ж так можна
жартаваці?!
Гэтак матку абіждаці...
Ад каго ты навучыўся?

ХЛОПЧЫК. (*Жыва ускочыушы з травы і лашчучыся да маткі*):
Не, матуля дарагая,
Гэта боты-скараходы
Ў гэтым разе вінаваты:
Як паймчалі, як паймчалі,
Не займчалі чуць да хаты.

МАТКА. Праўду кажаш?

ХЛОПЧЫК. (*Не адказуючы, сядае скідаць боты. Гледзячы на яе у гару*): Я іх скіну,
Панясу ўжо у руках... (*Устаушы, трымае у аднэй руцэ боты, а другой бярэ матку за руку*).
Пойдзем, мама!

МАТКА. Пойдзем, сыну!
Прамінуў ужо мой страх
І трывога больш ня мучыць:
Ўжо мы разам“..

ХЛОПЧЫК. (*Жыва, у вялікай радасьці*). Разам, разам!
І ніхто нас не разлучыць! (*Ідуць дамоу*).

## З'ЯВА VI-я.

*1, 2, 3 і 4 Званочкі і Незапамінайка паказуюць галоукі з-за кустоу і, гледзячы на пайшоушых Матку і Хлопчыка, ціха шэпчуць:* „Пайшлі з лесу, пайшлі з лесу“, *і з гэтым шэптам зноу хаваюцца. Усьлед за гэтым пачынаецца нямы сьпеу калысанкі. У лесе робіцца цямней і цямней. Перад канцом з нямога сьпеву калысанкі крышачку мацней выдзяляюцца словы:*

Ходзіць месяц промеж зор,
Сьпіць, заснуў драмучы бор.
Тучкі мкнуцца у паўсьне,
Часам ветрык шалясьне...

**У часе сьпеву паволі апушчаецца заслона.**

*Канец.*

А. Гарун.

# Шчасьлівы чырвонец.

## Казка ў двох абразкох.

*А С О Б Ы:*

*Жабрачка*, старэнькая, нізенькая, гадоў мае—Бог яе ведае колькі.

*Рускі.*—у брылю, рускай паддзёўцы, ботах бутэлькамі, з скураной каліткаю праз плячо.

*Гандлярка ласоткамі.*
*Гандлярка вопраткамі.* } Звычайныя местачковыя мяшчанкі—гандляркі. Разьбітныя, беглавокія,—з такімі-ж каліткамі, як у Рускага.

*Сьляпы,*—такі, каторага ўсякі бачыў, з лерай і даўгім кіем.

*Габрусь,*
*Гальляш,*
*Тарэска,*
*Стэфка,*
*Ганусьна,*
*Адна дзяучынка,*
*Мікалай,*
*Іванька,*
*Тодар,*
*Міхась,*
*Андрэй,*
*Пятрук,* } усё вясковыя дзеці, шкаляры. Габрусю 12 гадоў, Гальляшу 10, каля 11 гадоў. Рэшта дзяцей ў веку ад 9 да 12 гадоў. Адзеты звычайна, па вясковаму; хто бядней, хто крыху багацей, хаця больш-менш усе роўна.

*Павадыр.* Гадоў—7-8. З торбачкамі для хлеба.

*Вясковыя хлопчыкі і дзяучаткі* школьных гадоў.

## АБРАЗ ПЕРШЫ.

*Дарога за сялом. У далячыні, праміж лугоў, відаць рэчка. За імі няроўны відок. Нявысокія непрарыўныя горы, пакрытыя зарасьнікам, праміж якога там-сям—старэйшыя дрэвы. Справа пад вечар. Каля дарогі валяецца таўстая калода.*

### ЗЬЯВА І-я.

*Жабрачка выходзіць з правага боку, апіраючыся на даўгі кій і йдзе па дарозе. Адзеньне яе зборнае, з усякіх лахманоў. Абвешана торбачкамі і кайстрачкамі.*

ЖАБРАЧКА. (*Убачыўшы калоду*): А, адпачыць можна! (*Сядае на калодзе, палажыўшы кіек каля сябе і з верху у ніз гладзіць сабе ногі; прамаўчаўшы*): Ходзіш, ходзіш, цягаешся, валочышся па сьвеце... Апрыкрала! Людзі мяняюцца, а я ўсё адна... Усякому дагадзі, ўсякаму шчасьця дай, а мала-хто падзякуе,—ўсякі на долю наракае.—„Доля такая, доля гэтакая“; а я ўсё адна, ні добрая, ні благая... Ня ўсё-ж роўна людзі, што ў гэтай вёсцы, што ў тэй? Мне ўсё роўна! Я іду, сваё раблю, а назад не аглядаюся. Бывае так, што часамі таго самага чалавека на дарозе спаткаю,—дык што-ж? Мне ўсё роўна: той чалавек, гэты чалавек,—адны людзі!.. Для ўсіх адным шчасьцем сееш, а што яно няроўна абыходзіць, ды я ў гэтым ня вінна... Я сабе іду, сваё раблю, а аглядацца некалі:—людзей шмат, я адна,—ўсім дагадзіць мушу... Вось так, (*выймае з адной кайстры жменю чырвонцаў і кідае яе на дарогу, разсяваючы*), выймеш, пад ногі кінеш, а хто знойдзе, і як спажыве, хто яго ведае:—мне аглядацца няма калі! (*Зноў гладзіць ногі*). Ох ножкі мае... ножачкі, замучыце вы мяне так балючы. (*Нахіляе галаву ніжэй і ніжэй, ціха мурмоча сабе пад нос, задрэмліваючы, і, заснуўшы, зсоўваецца з калоды ня зямлю і кладзецца на бок. Мурмоча, як бы праз сон*): Ды й я вас мучаю... Ножачкі... Людзі... Людзей шмат... Хадзі, хадзі... А я не аглядаюся...

### ЗЬЯВА ІІ-я.

*Жабрачка і школяры. Школяры выбягаюць гурмам,—відаць, вароцаюцца з школы. Хлапцы, дзяўчаткі,—вясковыя дзеці, па ўсякаму адзеты. На перадзе іх Габрусь. Крычыць, абярнуўшыся да другіх, махаючы кніжкамі:*

ГАБРУСЬ. Хлапцы! Дзяучаты! Каму дамоў ня пільна?

У С Е. (*Пытаюцца разам, але кожны пасвойму*). Чаму? Дык што? А што будзе? (*Чуецца некалькі галасоў*): Мне, мне...

ГАБРУСЬ. Бо каму ня пільна, дык маглі-б тутака астацца пагуляць.

НЕКАТОРЫЯ. Можна! Можна!

АДНА ДЗЯУЧЫНКА. А мне трэба йсьці:—мама казала ня бавіцца. (*Ідзець*).

ТОДАР. А мне есьці хочацца:—сьнедаць нічога з сабой не браў. (*Ідзець ён, а за ім і першай дзяучынкай дзеці часткаю расходзяцца. Некаторыя моучкі, некаторыя з слоумі*: „і мне трэба ісьці“, „і я не магу астацца“, „у хаці чакаюць“ *і інш. аддзяляюцца і йдуць. Ім ў сьлед з той часьці, якая застаецца, крычаць*: „Стэфка пачакай! Пойдзем разам, толькі крышку пагуляем“, „Яська, куды ты“? *і г. д. Але да іх адказуюць тыя, каго клічуць*, „Не пайду“, „Мама казала“ *і г. д.*).

### ЗЬЯВА III-я.

*Некаторыя астаюцца, усяго душ 10, з іх 3 дзяучынкі...*

СТЭФКА. (*Да Габруся*). А ў што гуляць будзем?

ГАБРУСЬ. Ды ў што хочаце. Ну, у гарэлыша давайце!

ТАРЭСКА. Не, не, лепі ў звон.

МІКАЛАЙ. У жмуркі! У ката!..

ГАНУСЬКА. У сяло!

ІВАНЬКА і ІНШ. (*На перабой*). У краскі! У Маскву! У караля! (*Потым крычаць*:) У соль! У соль, будзем у соль гуляць! У соль! У соль!

ГАБРУСЬ. Ну, хто сядзе са мной? (*Сядае на зямлю*).

МІКАЛАЙ. Я! (*Падбягая і сядае, рэшта становіцца у кучы і потым, расцягнуушыся у адзін рад, пераходзяць праз ногі сядзячым на зямлі, сьпяваючы хорам*: „ідзець байдак бяз солі, бяз солі! Ідзець байдак бяз солі, бяз солі“. *Перайшоушы так, паварачуюцца назад і адзін па адным пераскакуюць праз ногі тых, што сядзяць, з крыкам*: „ідзець байдак з сольлю!“ *Чацьвертага з чаргі, Іваньку, Габрусь ловіць?*).

У С Е. Ай-яй, Іванька папаўся, ні перайшоў з сольлю!

ГАБРУСЬ. (*Устаушы, да Іванькі*): Ну цяпер ты сядай, а я соль пацягну. (*Усе пачынаюць гульню зноу. Мікалай злавіу Стэфку, каторая, як толькі Мікалай устау, кажа*):

СТЭФКА. Ай, я ня хочу сядзець! Што гэта за гульня, каб сядзець? Лепі ў што-небудзь другое будзем гуляць.

ГАБРУСЬ. А ў што другое?

ГАНУСЬКА. У перасечкі, ў перасечкі!

ІНШЫЯ. (*Падтрымваюць*). У перасечкі, ў перасечкі!

ГАБРУСЬ. А хто першы пачне гарэць? Хочаце, я буду?
НЕКАЛЬКІ ГАЛ. Не-не, чатавацца, каму першаму!
ГАБРУСЬ. Ну добра, будзем чатавацца. Станоўцеся роўна.

(*Усе становяцца каля яго паўколам, а ён пачынае лічыць на-поў сьпяваючы*):

1.

Саломінка, яромінка
Прэла, гарэла,
На мора ляцела.
Выйдзі вон, Радзівон!

2.

Цок—цылірок.
Пана Фіда футарок
Прэў, гарэў, пастарэў!
Апанас, выйдзь ад нас!

*Калі скончылася чатаваньне, Мікалай, катораму прыпала гарэць, кажа*: „Ну, станоўцеся, будзем гуляць“. *Усе становяцца за яго плячыма пара за парай, а Тарэска ня мае сабе пары.*

ТАРЭСКА. А ў мяне пары няма.
МІКАЛАЙ. Дык пастой так, пакуль мы ня скончым.
ТАРЭСКА. Ай, я ня хочу, я бардзей да хаты пайду!
НЕКАТОРЫЯ. (*Абярнуўшыся*). Чакай, Тарэска! Мы толькі раз абяжым без цябе, а потым усе будзем гуляць.
ТАРЭСКА. (*Стаўшы з боку, нараўліва*): Ай! Я ня хочу.
ГАБРУСЬ. Ай, слухайце, вунь Тарэсцы і пара йдзе!
У С Е. (*глядзяць на дарогу, адкуль прыйшлі; адзываюцца галасы*): Гальляш! Гальляш!
МІКАЛАЙ. Хадзі хутчэй, Гальляш, станавіся ў пару!

## ЗЬЯВА IV-я.

*Тыя-ж і Гальляш, хлопчык гадоў 9—10, з кніжкамі, адзеты ня горш за іншых шкаляроў.*

ГАЛЬЛЯШ. (*Усім, каторыя яго абступаюць, некаторыя нават ухапіўшы за рукавы*): Куды вы мяне клічаце?
ГАБРУСЬ. У перасечкі гуляць з намі.
ГАЛЬЛЯШ. Ой не, я і бяз гульні дамоў забавіўся! Будзе мама сварыцца, што спазьніўся. Яшчэ трэба па каня ў лог ісьці.
МІКАЛАЙ. Пасьпееш! Разам пойдзем у лог. А дзе-ж ты быў?
ГАЛЬЛЯШ. У вучыцелькі. Дровы ёй заставаўся пілаваць.
СТЭФКА. Якія дровы?
ГАЛЬЛЯШ. Ды вучыцельчыны-ж!
ГАБРУСЬ. А хіба наша настаўніца сама свае дровы рэжа?
ГАЛЬЛЯШ. Як-жа сама? Бачыш-жа, я памагаць аставаўся.

ГАБРУСЬ. Ну, то ты, ведама, любіш падлаешцца...

ГАЛЬЛЯШ. Чаму так,—люблю?

ГАБРУСЬ. А што-ж, астаецца памагаць вучыцельцы, маўляў-бы яна і наняць каго не магла?

ГАЛЬЛЯШ. А каго-ж янаноймя? Ды і грошай у яе нямашака. Гэта-ж яе мама хворая, дык усё сваё жалаваньне аддае на яе лякобу. Чаму-ж не памагчы? І што тут кепскага?

ТАРЭСКА. Праўда, праўда! (*Да першага хлапца*): Ты ня добры, Габрусь, не шкадуеш нікога.

ГАБРУСЬ. Эт, усіх шкадаваць... Давайце лепі гуляць. (*Да Гальляша*). Ты ў нас гульню толькі перарваў!

ГАЛЬЛЯШ. Вы самі мяне, ня ведаю чаго, клікалі?

МІКАЛАЙ. Гуляць, гуляць! Нашай Тарэсцы пара няма у перацінкі стаць.

ГАЛЬЛЯШ. Не, я не магу, трэба йсьці...

МІКАЛАЙ. Астанься, астанься! Толькі адзін раз згуляеш, ды ўсе пойдзем разам.

У С Е. (*Просяць*). Астанься! Астанься!

ГАЛЬЛЯШ. Ну, добра, добра, абы-б хутчанька, не забавіцца.

МІКАЛАЙ. (*Хлопнуўшы Гальляша па плячу і, падскочыўшы ад радасьці*). Гэтак лепі адразу казаў-бы! (*Да усіх*). Ну, ў пары, ў пары! (*Становіцца сам, а за яго плячыма становяцца іншыя, кажа:* „гару“! *і аглядаецца назад*).

У С Е. (*Крычаць*). Не, не, цур, цур! Не глядзі назад! Не глядзі назад! Глядзі роўна!

МІКАЛАЙ. (*Затыкаючы вушы*) Ой, не верашчыце-ж так! Буду роўна... Ну, гару!

У С Е. (*Хорам*). Гары, гары яс-на, кабы не пагас-ла. Пых! (*Пасьля* „пых“ *апошняя пара, абягаючы усіх, а так сама і Мікалая, стараецца злучыцца на перадзе).*

*(Перасечнік-Мікалай ловіць аднаго з пары з крыкам:* „ага, братка, спаймаў! Ну цяпер ты сячы!“ *і, узяўшыся за рукі з другім з тэй пары, становіцца наперадзе усіх. Новы Перасечнік, так, як і Мікалай, становіцца да усіх плячмі і крычыць,* „гару“! *Тады усе, як перад тым сьпяваюць зноу* „гары ясна“... *і пасьля* „пых“ *—апошняя пара так сама абягае з двух бакоу гуляючых, каб злучыцца, што ей і удаецца. Яна становіцца у першы рад. Той самы перасечнік, стаўшы наперадзе, крычыць зноу* „гару“ *і гульня ідзець і далей, аж да таго часу, пакуль абягаць усіх ня прыходзіцца тэй пары, у якой стаяў Габрусь. Уцякаючы у бок ад Перасечніка, ен раптам становіцца і, жвава нахіліўшыся, падпімае нешта. Перасечнік яго ловіць у гэты час.)*

ПЕРАСЕЧНІК. Ага!
ГАБРУСЬ. Цур, цур, я ня буду!
ПЕРАСЕЧНІК. Чаму?.. Пакажы, што ты падняў!
У С Е. (*Кідаюць рады і падбягаюць да іх*). Што? Што?
ГАБРУСЬ. Што! (*паказуе усім*)—Вось што! Чырвонца знайшоў!
У С Е. (*Зьдзівована*). Ай-яй! Чырвонец!.. Чырвонец...
СТЭФКА. Трэба пашукаць, ці няма тут яшчэ чырвонцаў! (*Кідаецца шукаць, а за ей усе. Чуюцца галасы:* „Не, няма, нехта адзін толькі, мусіць, згубіў“. „Не, тут знойдзем яшчэ аднаго“).
ГАЛЬЛЯШ. (*Раптам ускаквае з зямлі і, высака падняушы у руцэ чырвонец*): Ага, вось ён.! І я знайшоў чырвонца. Залаты, залаты! (*Пакручавае чырвонец у пальцах на усе бакі*).
У С Е. (*Абступаючы яго*). Аяй, і ён знайшоў! І ён знайшоў!
ГАБРУСЬ. (*Працягуючы руку да Гальляша*): Дай!..
ГАЛЬЛЯШ. (*Кладзе яму на далонь чырвонец*). На...
ГАБРУСЬ. (*Бордзенька хаваючы абодва чырвонцы у кішаню*). Дзякуй! Ха-ха-ха!..
ГАЛЬЛЯШ. Як-„дзякуй“? За што ты дзякуеш?!
ГАБРУСЬ. Ды за таго-ж чырвонца, каторы ты мне падараваў?
ГАЛЬЛЯШ. Я табе не дараваў чырвонца, я толькі даў табе паглядзець на яго.
ГАБРУСЬ. Я-ж у цябе не прасіў паглядзець. Я папрасіў „дай“, а ты сказаў „на“ і аддаў мне чырвонца; тагды я табе за яго падзякаваў...
ГАЛЬЛЯШ. Але я хацеў сказаць: „на, паглядзі“, а ты мяне перабіў..
ГАБРУСЬ. Ну, я гэтага ня чуў. Ты сказаў мне—„на“, я табе —„дзякуй“, і на гэтым квіта. (*Частка дзяцей сьмяецца*).
ГАЛЬЛЯШ. (*З плачам у голасе*). На што ты мяне ашукаў? Я табе не аддаваў саўсім, а ты...
ГАБРУСЬ. Гэта ты мяне ашукаць хочаш: сам аддаў напярад, а цяпер зноў даходзіш. Ідзі на гэта такога дурня, як сам, пашукай... Хай табе вучыцелька дасьць чырвонца за тое, што ты ёй дровы пілавадь астаешся. (*Частка дзяцей сьмяецца, другая трымаецца няпэуна*).
ГАЛЬЛЯШ. Аддай!..
ГАБРУСЬ. Ого! Наша каза за сьлезы ўзялася: бэ-э... (*да усіх*). Ідзем, я вас цукеркамі пачастую. Хіба дурнявых сьлёз ня бачылі, ідзем! (*Усе адварачуюцца за ім і йдуць па дарозе у веску. Габрусь яшчэ раз абарачуецца і дражніць Гальляша*): бэ-э.... бара-ан..

ГАЛЬЛЯШ. Абакула! Ашуканец!
ГАБРУСЬ. (*Выбягаючы*). А, дык ты яшчэ і лаяцца!? Дык вось-жа табе! (*Б'е Гальляша пад ножку, аж той падае, і уцякае, а за ім усе дзеці, каторыя яшчэ заставаліся*).

## ЗЬЯВА V-я.

*Гальляш і Жабрачка.*

ГАЛЬЛЯШ. (*Паднімаючыся з зямлі, з горкім плачам*): Адабраў... Чырвонец адабраў, ды пабіў яшчэ... Ашуканец.. (*плача, выціраючы рукавом сьлёзы*).
ЖАБРАЧКА. (*прачнуўшыся, паднімае галаву*). Ох! (*глядзіць на Гальляша*). Хто гэта плача тут? (*Паднімаецца, бярэ ў рукі кій і, папраўляючы катомкі*): Нейкае хлапчанё... Падыйсьці запытацца?.. (*Па старэчаму падыходзіць ззаду да Гальляша і кладзе яму сваю руку на плячо*). Аб чым засмуціўся, дзіцятка, чаго плачаш? (*Гальляш аглядаецца на яе як бы з страхам, яна гладзіць яго па шапцы рукой*). Ня бойся, ня бойся мяне, дзіцятка, скажы, чым цябе пакрыўдзілі?
ГАЛЬЛЯШ. (*праз плач, пакрыўджаным голасам*) Мы гэтта гулялі...
ЖАБРАЧКА. (*Ківаючы галавой*). Гулялі, гулялі... Што-ж бы яшчэ рабілі, каб ня гулялі!..
ГАЛЬЛЯШ. А ён знайшоў чырвонец...
ЖАБРАЧКА. Хто-ж ён, дзетачкі?
ГАЛЯЛЯШ. Габрусь...
ЖАБРАЧКА. А-а.. Бач, Габрусь знайшоў чырвонец; а... далей што?...
ГАЛЬЛЯШ. А потым я знайшоў чырвонец...
ЖАБРАЧКА. (*Як-бы зьдзіўляваўшыся*). І ты знайшоў чырвонец?.. Дзе-ж твой чырвонец?
ГАЛЬЛЯШ. Дык ён у мяне адабраў яго...
ЖАБРАЧКА. Хто?..
ГАЛЬЛЯШ. Габрусь.. Ён кажа: „дай“. Я думаў, што ён хоча паглядзець толькі, дык кажу: „на“, а ён узяў, палажыў у кішаню і гаворыць „дзякуй“! (*усхліпае*).
ЖАБРАЧКА. Яй, які нягодны! І не аддаў?
ГАЛЬЛЯШ. Не... А потым узяў мяне і штурхануў на зямлю...
ЖАБРАЧКА. Ах, нягодны які!—Яшчэ пабіў. Вось круцель!.. Ну, нічога, дзеткі, ты ня плач. Усёроўна яму тыя чырвонцы не паслужаць. Круцялём, кажуць, сьвет пройдзеш, а назад ня вернешся. Ня плач, дзеткі, што-ж зрабіць. Забраў, дык забраў, няхай гэта яго шчасьце будзе. А я табе (*выймаючы з кайстры чырвонец і кладучы яго ў руку Гальляшу*): а я табе другі чырвонец дам, вось маеш! Гэты можа

шчасьлівейшы будзе... (*Гаворыць з затаённай думкай*). Ніхто яго ад цябе не забярэ... не адбярэ... (*Гладзіць Гальляша па галаве, зьняўшы з яе шапку*).

ГАЛЬЛЯШ. (*Ловячы яе рукі, каб пацалаваць, жыва*). Дзякуй, дзякуй, бабулячка!

ЖАБРАЧКА. (*Не даючы рукі*): Ня трэба, дзеткі, мяне ў руку цалаваць, хоць я й старая. Дай, лепі я цябе ў твае гэтыя бедныя вочкі, што плакалі, пацалую. (*Адхіляе яго галаву і цалуе яго у вочы*). Ну, а цяпер ідзі дамоў, там на цябе, пэўне, чакаюць. Але толькі нікому, пакуль што, аб сваім чырвонцы не кажы. Рана людзі даведаюцца—пашкодзіць можа. А ў нядзелю, як будзе фэст, дык ты раней за другіх пастарайся на торг трапіць і там на ўсё, што ні ўпадабаецца, сьмела падыходзь і пытай цану—усё за свайго чырвонца купіш. (*Так гаворучы падводзіць хлопчыка аж на край дарогі у веску і, запыніўшыся сама, яго леганька падштурхуе рукою*). Ну ідзі, мае дзеткі! Там цябе ў хаце чакаюць...

ГАЛЬЛЯШ. (*З-за дрэваў ужо*). Дзякуй бабулечка!.. Дзякуй!

ЖАБРАЧКА. Няма за што, дзеткі, няма за што!..

### ЗЬЯВА VI-я.

*Жабрачка адна.*

(*Па старэччаму*). Ой трэба йсьці.. Трэба сабе йсьці... Што там шчасьце?.. Адзін даў, другі ўзяў... Ой, ногі мае, ножачкі! Калі вы хварэць перастанеце?.. Ой, ой!.. (*Так паволі вохкаючы йдзе сабе далей па дарозе у бок ад вескі*).

Заслона.

---

## АБРАЗ ДРУГІ.

*Адзін з куткоў рынку. У глыбі сцэны, каля паркану, стаяць тры паходныя крамкі на ручных каламашках. У першай, з правага боку,—пернікі, цукеркі, ласоткі... У другой—абразкі, малюнкі, ўстужкі, каралі, цацкі, у трэцяй хусткі, суконкі, боты—усялякія адзежы. За парканам—вуліца, абсаджаная дрэвамі, край нечыяй сялібы, поле: хаваецца ў лесе далёкая крывая дарога.*

### ЗЬЯВА І-я.

*Гандлярка ласоткамі, Рускі, Гандлярка адзежай.*

РУСКІ. (*Тупае каля сваёй крамкі, разьвешваючы тавар; да Гандляркі ласоткамі*): Што-й матушка, престол-то ў вас вялік?

ГАНДЛЯРКА ЛАСОТКАМІ. Яшчэ які вялікі, чалавеча. Народу таго, звычайна, як мурашак, бывае,—толькі спраўляйся...

РУСКІ. Ішь ты! А чаво-ж ня відаць—народу-то?

ГАНДЛ. ЛАС. Як ня відаць, а што гэнам робіцца, паглядзі? *(Паказуе ў правы бок).* Толькі яшчэ рана крыху; гэта-толькі тыя, што здалёк на наш фэст прыяжджаюць.

РУСКІ. Вона!

НАНДЛ. ЛАС. Але. Ты, мусіць, першы раз тут купцуеш, што ня ведаеш?

РУСКІ. Впервой.

ГАНДЛ. ЛАС. Відаць,—бо пытаешся. Тутака ў нас на ўсё свой парадак. Бачыш *(паказуе рукой)* вунь, аж там, за царквой,—там усё толькі коньмі гандлююць,—бо ў гэты дзень у нас конскі кірмаш; той канец конскім дзеля таго завецца. Бліжэй ля царквы—там дзядоў, як мурашак, зьбіраецца,—гэты канец—дзядоўскім завецца. А гэтта, дзе мы стаімо, і бліжэй сюды да нас, тут, бачыш, усё моладзь, ды бабы, ды дзеці таўкуцца, дык наш канец называецца дзяцінцам...

РУСКІ. Э в а!

ГАНДЛ. ЛАС. Але, дзяцінцам! *(Як раней, усе прыбіраюць тавары на сваіх латакох. Кароткая паўза).*

## ЗЬЯВА 2-я.

*Тыя-ж і Жабрачка. Ідзець вохкае, кіхкае. Першай на яе зьвяртае увагу гандлярка ласоткамі і, кінуўшы прыбірацца, глядзіць на яе з зьдзіўленьнем. Жабрачка паволі ступае-сунецца.*

ГАНДЛЯРКА ЛАСОТКАМІ. Куды йдзіцё, бабуля? Мусіць ня туды трапілі, у нас жабракі ўсе тамака *(паказвае рукой)* у старэцкім канцу.

ЖАБРАЧКА. Га? Кх-х-х-х... Што? ў старэцкім канцу, кажаш, маладзіца?

ГАНДЛ. ЛАС. Ну але!

ЖАБРАЧКА. Але паехаў на вале, кажуць, такам праўду араць... Хэ-хэ-кх-кх. Ой, старасьць, дачушка!

РУСКІ. Ішь ты, бабушка! Старая, старая,—а відаць, бывалая... Как урезала-то!

ЖАБРАЧКА. Як старая, то й бывалая—ведама. Мусіць нікому з вас, як мне, не давялося столькі бываць на сьвеце ўсюды.

РУСКІ. Ой-лі? І в Ярусаліме пабывала?

ЖАБРАЧКА. І ў Ярусаліме... Усюдых мяне было досыць... і з мяне досыць...

РУСКІ. Ішь ты!

ЖАБРАЧКА. А ў вас гэта што сягоньня за збор народу,— фэст, ці кірмаш?

